



*Віктар Шніп*

# БЕЛАРУСКІ ПАНТЭОН

## *Балады крыві і любові*

*(Працяг. Пачатак у папяр. нумарах.)*

### БАЛАДА ДЗМІТРЫЯ СМОЛЬСКАГА (25.07.1937 - 29.09.2017)




Паміж зямлёй і небам музыка крыляла,
І ты пачуў яе, і ты яе славіў,
Каб тут яна сівой легендаю гучала
Для тых, каго ты любіш і каго любіў.

І загучала, і гучыць над божым светам,
Дзе мы з табой жылі,
жывём і будзем жыць.
І ты праз восеньскі агонь ідзеш з Паэтам,
І ў кожным вашым кроку
Беларусь гучыць.

І больш між нас
нікому не парваць сцяжыны,
Як струны скрыпак, дзе затоена святло,
З якога пачыналася жыццё Айчыны
І без якой тут нас ніколі б не было.

І музыка прыходзіла ў твой свет вялікі,
Ты цалаваў яе і вечнаю рабіў.
Цяпер яна ідзе праз цішыню і крыкі
Да тых, каго ты любіш і каго любіў.

*10.12.2017 г.*

### БАЛАДА УЛАДЗІМІРА СОДАЛЯ (13.09.1937 - 15.04.2015)




З Мацеем Бурачком ідзеш па родным краі
У світцы вышыванай, як туман, сівы.
Здымаеш саламяны брыль, бо дудка грае,
І покуль дудка грае, ты яшчэ жывы
У свеце, дзе і жыць, і паміраць не нова
І быць для многіх
проста смешным дзіваком,
Якому ўсё жыццё баліць душа за Слова,
Якое ў спадчыну з Мацеем Бурачком
Нам засталося, каб цяпер па родным краі
Ішлі, не абтрасаючы расу з травы,
Усе, хто чуў, як дудка бурачкова грае
І верыў словам: "Дудка грае - я жывы!"

*15.04.2015 г.*

### БАЛАДА ЯЎГЕНА КУЛІКА (31.10.1937 - 12.01.2002)



…Ты замкі аднаўляеш на паперы,
Нібы ў былое адчыняеш дзверы.
А там агонь і кроў там на траве,
І чорны дым… Ды Беларусь жыве.
І ты ідзеш сярод людзей, якім
Ніколі ты не зробішся чужым,
Бо і яны народжаны былі,
Каб беларускім край быў на зямлі
Не краем цёмным у чужой краіне,
А раем тым, хто гінуў і загіне
За Беларусь, якая ёсць і будзе…
Ідзеш, і вецер б'ецца ў твар і грудзі,
І нельга прыпыніцца і сказаць,
Што я знямогся і хачу спакою,
Бо на цябе з крыжоў дзяды глядзяць
І бусел белы кружыць над табою,
Нібы анёл, што Беларусь ратуе
І ўсё ніяк не можа ўратаваць
Ад мёртвых душ, дзе наша смерць начуе.
У душах нашых сонцу начаваць!
І будзе так, бо нават на паперы
Для ворагаў заўжды замкнуты дзверы
У нашых замкаў і гасцінных хат.
І будзе Беларусь, як божы сад,
Дзе ў квецені пчаліны гуд не тоне,
Дзе сонца ў небе, нібы шчыт з Пагоняй…

*29.03.2008 г.*

### БАЛАДА МІХАСЯ ЧАРНЯЎСКАГА (7.03.1938 - 20.01.2013)

Наша мінулае ў нашай зямлі,
Быццам схаваны ад рыцара меч.
Замкаў руіны травой зараслі,
Не зарастае на хутары печ,
Што засталася ад хаты дзядоў,
Белая, быццам бы белы наш свет,
Чорная, быццам звуглелая кроў,
І адзінокая, быццам бы след,
Што шчэ цяплее на сцежцы жыцця,
Помнім якое, з якога ўцяклі,
Каб нам ісці ізноў да адкрыцця:
Наша мінулае ў нашай зямлі,



Быццам бы ў кнізе, якую чытаў
Ты кожны дзень, каб мы чулі, што мы
Самі павінны ўсё ж вызваліць з траў
Замкі старыя і продкаў дамы,
Бо без былога не будзе нічога:
Ні Беларусі, ні шляху да Бога…
І ты капаеш, капаеш зямлю,
Быццам шукаеш свой рыцарскі меч,
Каб бараніць тут усё, што люблю
Я, як усе, і на хутары печ,
Што засталася ад хаты дзядоў,
Белая, быццам бы белы наш свет,
Чорная, быццам звуглелая кроў,
Родная, быццам мінуўшчыны квет..

*23.01.2013 г.*

### БАЛАДА ІГАРА ЛУЧАНКА (6.08.1938 - 12.11.2018)

Ты ідзеш закаханы ў вясны краявіды,
Як малітва з табой:
"О, мой край, дарагі…"
Засталіся ў мінулым прызнанні і крыўды,
І вярнуліся рэкі ў свае берагі.

На высокім кургане гусляр адзінокі,
Ён глядзіць - жураўлі на Палессе ляцяць,
І плывуць, як нязбытныя мроі, аблокі,
На якіх маладыя анёлы сядзяць.

Ты ідзеш аглядаючы спадчыну нашу,
У якой твая музыка светла жыве,
І яна пра цябе новым людзям раскажа,
Па вадзе ручніком у нябыт не сплыве.



Цябе помняць заўжды Вераніка, Алеся,
Для якіх ты планеты Любові стварыў.
Ты высока ўзышоў,
ты жыцця паднябессе
Сваёй зоркай нязгаснай для нас азарыў.

Ты ідзеш закаханы ў вясны краявіды,
Як малітва з табой:
"О, мой край, дарагі…"
Засталіся ў мінулым прызнанні і крыўды,
І вярнуліся рэкі ў свае берагі.

*2.06.2019 г.*

### БАЛАДА АНАТОЛЯ БЕЛАГА (10.12.1939 - 14.11.2011)




…У Доме рыпяць зноў масціцы,
Бы ў Храме вялікім, старым,
Які ты стварыў не ў сталіцы,
Які для Айчыны стварыў.

Навокал карціны… Партрэты…
Харугвы… Сцягі і крыжы…
І ўсё беларускае гэта,
І ўсё ад душы для душы.

І ты не спяшаючы крочыш,
Бо новы, прыдбаўшы, партрэт,
Партрэту знайсці месца хочаш,
Бы кропку, з якой белы свет
Ты зможаш скрануць і зіначыць,
Каб болей тут бед не было,
Жыла Беларусь, а іначай
Ці трэба ад Бога святло,
Бо ў час, калі мова загіне,
Мы следам загінем за ёй,
І ўся Беларусь дамавінай,
Як сэрца Еўропы сівой,
Ляжаць будзе сумна прад Богам,
Які паспрыяў нам, каб мы
Сваю пракладалі дарогу
У Заўтра з сухотнай зімы…

Як плачуць, рыпяць тут масціцы,
З партрэтаў паўстанцы глядзяць,
Якімі жывым ганарыцца,
Якіх з нашых душ не прагнаць
Нікому, нікому, ніколі,
Бо тут - Беларусь назаўжды,
Тут нашае Заўтра і Воля,
Тут нашы героі і ты…

*15-16.11.2011 г.*

*(Працяг у наступным нумары.)*





# Артыкулы Антона Луцкевіча, якія раней не друкаваліся па-беларуску

### Нацыянальнае беларускае свята

Найбольшым беларускім святам можна лічыць штогадовае святкаванне гадавіны абвяшчэння Незалежнай Беларусі, дзень 25.03.1918. За выняткам беларускіх груп, якія арыентуюцца на ўсход, усе іншыя беларусы лічыць гэты дзень Днём нацыянальнага гонару і штогод, 25 сакавіка, арганізуюць урачыстыя пасяджэнні і набажэнствы ў касцёлах і цэрквах.

У гэтым годзе беларусы-віленцы надалі святкаванню надзвычай узнёслы характар, бо святкаваліся 15-я ўгодкі аглашэння менскага акту разам з 70-мі ўгодкамі беларускай прэсы, пачаткам якой можна лічыць выданне "Мужыцкай праўды" Канстанцінам Каліноўскім у 1863 г.

У атмасферы хуткіх перамен у апошнія 15 гадоў, кожны з еўрапейскіх народаў да такой ступені быў заняты ўласным лёсам, што не заўсёды меў магчымасць звярнуць увагу на палітычныя падзеі, якія для яго не былі важнымі. Таму факт аб'яўлення незалежнасці Беларусі не гэтак шыроквядомае і добра зразумелае свята, яно нават часта фальшуецца. Гэтак, напрыклад, нядаўна газета "Слова" абвінавачвала выдаўцоў уніяцкага беларускага календара ў тым, што яны змясцілі ў календары дату нацыянальнага свята 25 сакавіка, па меркаванні "Слова" ў гэты дзень была абвешчана беларуская савецкая рэспубліка.

Таму не зашкодзіць успомніць некаторыя факты.

У снежні 1917 г. у Менску адбыўся Агульнабеларускі з'езд, у якім прынялі ўдзел 1872 дэлегаты, якія ў сваёй большасці былі прыхільнікамі абвяшчэння незалежнай беларускай рэспублікі. Бальшавікі ўбачылі для сябе ў працы з'езда небяспеку і збройна разагналі з'езд. Дэлегаты схаваліся ад бальшавікоў і перадалі свае паўнамоцтвы ў рукі Рады з'езда, якая пасля дапаўнення свайго асабістага складу прадстаўнікамі некаторых беларускіх груповак і дэлегатамі ад іншых народаў была перназвана ў Раду Беларускай Рэспублікі. Гэта Рада 25 сакавіка 1918 г. абвясціла: *"... мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасці, якое гвалтам накінулі расійскія цары на наш вольны і незалежны край ... Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца Незалежнай і Вольнай Дзяржавай ..." (Штотыднёвік "Вольная Беларусь. Менск. 31.03.1918 г. № 11.)*

Як вядома, акт 25 сакавіка, не падтрыманы збройнай сілай, застаўся папяровым дакументам, але стаў кропкай адліку. Пэўна, у рэалізацыю акта не верылі і яго аўтары - беларусы яшчэ не былі гатовыя да таго, каб выкарыстаць адпаведны момант, бо ім бракавала нацыянальнай салідарнасці, якая была патрэбна, каб стварыць уласную моцную армію. Аднак, гэта не значыць, што акт 25 сакавіка быў творам групы інтэлігентаў, адарваных ад народа. Вялікі з'езд, які папярэднічаў абвяшчэнню незалежнасці з яго незалежніцкімі тэндэнцыямі, паказаў, што беларусы ўжо тады выказалі вялікую нацыянальную і палітычную свядомасць.

Зараз на першы погляд, беларусам можна закідваць, што святкаванне абвяшчэння неіснай рэспублікі не мае сэнсу. Аднак можна з упэўненасцю сцвярджаць, што калі б беларусы не святкавалі 25 сакавіка, дык мусілі б знайсці сабе іншы легендарны дзень, які б быў знаны ў гісторыі і яднаў іх пад сцягам незалежнасці. Акт незалежнасці аказаўся ў гэтым сэнсе першарадным чыннікам для ўгрунтавання незалежніцкай ідэалогіі і наогул, нацыянальнай салідарнасці. Праўда, Акт 25 сакавіка застаўся толькі на паперы, але нельга забываць, што такі ж самы лёс спаткаў і канстытуцыю 3-га мая і гэта не перашкодзіла палякам у доўгія часы няволі ўрачыста святкаваць 3-га мая, каб будзіць польскіх патрыётаў. Святкаванне ўгодкаў канстытуцыі падчас няволі не вынікала з захаплення ад анахранічнага праўнага помніка і не было справай польскай бюракратыі, як сёння, не было святам інкарпарацыі ВКЛ у Карону. Гэта была дасканалая магчымасць прадэманстраваць жыватворчую моц прыгнечанага народа, абуджала дух у новых пакаленнях і выхоўвала на ідэалогіі незалежнасці.

Паміж абодвума гэтымі актамі, акрамя падабенства, ёсць і розніца, але калі глядзець з пункта погляду ўздзеяння на выхаванне маладога пакалення, дык маецца цалкам выразнае падабенства.

Характэрнай ёсць з'ява, што яшчэ нядаўна не ўсе беларусы ў Вільні лічылі неабходным святкаваць 25 сакавіка. Беларуская Сялянска-Рабочая Грамада і яе спадкаемца "Змаганне", не бралі ўдзелу ў першых святкаваннях. Але гэтыя палітычныя групы мелі вялікую праблему з тым, што яны не святкавалі незалежнасць і такім чынам ішлі супраць агульнай плыні беларускага народу, чым наклікалі на сябе падазрэнне ў залежнасці ад Менска, а калі б яны святкавалі разам з усімі, дык ім бы прыйшлося злучыцца са сваімі палітычнымі праціўнікамі.

За вышэйпамянутымі палітычнымі групамі ішло таксама і Таварыства беларускай школы, аднак у гэтым годзе ТБШ згадзілася ўтварыць агульны юбілейны камітэт і першы раз, па-праўдзе неафіцыйна, узяло ўдзел у арганізацыі свята. Папярэдняе стаўленне ТБШ да свята ў беларускіх колах тлумачылася ўплывам самых радыкальных беларускіх груповак і новы крок Таварыства да святкавання незалежнасці жыва каментаваўся як важны паварот у жыцці ТБШ які дае вялікае поле для домыслаў і здагадак.

У любым разе, добра, што самая моцная беларуская арганізацыя - ТБШ знайшла modus vivendi і зрабіла крок да злучэння беларускіх сіл. […] Трэба і далей шукаць паразуменне для сумеснай працы для агульнай карысці.

S-wicz (Антон Луцкевіч).

Narodowe swiato bialoruskie // Preglad Wilenski. 1933. № 6. S. 2 - 4.

### Маўр зрабіў сваю справу …

Дзіўныя рэчы робяцца ў Савецкай дзяржаве. Там можа ўбачыць шмат цікавых эксперыментаў і высілкаў, але цяжка чакаць нечага сталага і пэўнага. Тое, што робіцца сёння і лічыцца правільным, назаўтра будзе злачынствам і vice versa (лац. наадварот - *Л. Л.*). Можна сабе ўявіць жыццё грамадзяніна ў такой няпэўнасці.

Мы прызвычаіліся да думкі, што вязень, які сядзеў у Польшчы за камунізм і якога абмянялі, у Саветах будзе мець стоадсотковую гарантыю лаяльнасці і заслужыць вянок пакутніка і барацьбіта за ідэі Леніна. Бо гэтак бальшавікі трактуюць кожнага вязня, якога абмянялі. Сустракаюць яго ганарова і з аркестрам, дазваляюць яму казаць прамовы пра белы тэрор і г. д. Аднак, потым аказваецца, што новы грамадзянін не дарос да разумення прамудрай сталінскай палітычнай лініі. З таго боку мяжы марксізм трэба разумець па-іншаму, і бедны былы вязень не доўга мае магчымасць захапляцца будаўніцтвам сацыялізму - ён хутка трапляе ў няміласць і зноў за краты.

Ахвярай такога павучальнага непрыстасавання да савецкага камунізму стаў шырока вядомы ў Вільне былы пасол у Сейм др. Дварчанін. У Заходняй Беларусі гэта быў перакананы і актыўны саветафільскі дзеяч. На фабрыках і публічных пляцоўках ён арганізоўваў масавыя сходы, на якіх не раз быў "турбаваны" нейкімі "невядомымі" асобамі. У Сейме кідаў, чырвоныя як савецкі сцяг, дэманстрацыйныя ўнёскі і палымяныя выкрыкі супраць т. зв. інтэрвенцыі. З жоўцю пісаў артыкулы пра фашызацыю Еўропы, прыўзносіў ролю і заслугі СССР. І ўсё гэта "для дабра працоўнага люду".

Ніхто не сумняваўся, што рабіў ён гэта шчыра. Праз нейкі час лёс прывёў яго на лаву падсудных. Як не дзіўна, але менавіта лёс, бо сярод знаёмых ён меў звычку казаць: "Справа патрабуе ахвяр, а мне патрэбны час каб папрацаваць над сабой у турме" Сваю ўніверсітэцкую адукацыю ён лічыў недастатковай для актыўнага палітыка.

Яго прамова на лаве падсудных пацвердзіла тэзісы пракурора, і ён атрымаў 8 гадоў вязніцы (у 1930 г., арыштаваны польскімі ўладамі - *Л.Л.*) Праз нейкі час разам з калегамі з сеймавага клуба "Змаганне" атрымаў волю праз абмен вязнямі паміж Польшчай і СССР (абмен адбыўся ў 1932 г. - *Л. Л.*) Тыповая кар'ера беларускага радыкальнага палітыка.

Далей была сустрэча з помпай у Негарэлым (памежная станцыя - *Л.Л.*), даклады пра Польшчу, віншаванні ад збеглых братоў і г. д.

Але гэта не цягнулася доўга. Маўр зрабіў сваю справу … Сёння добра інфармаваная камуністычная прэса ў Польшчы не цырымоніцца з учарашнімі героямі і называе Дварчаніна "ворагам народна-вызваленчага руху". Ці знаходзіцца ён на волі, невядома . Магчыма, яго чакае лёс Фр. Аляхновіча.

(У камеры менскай турмы беларускі палітык і ўцякач з Польшчы Іван Дрозд сядзеў у адной камеры з Іг-натам Дварчаніным. Былы беларускі пасол, якога прывезлі з паўночных лагераў па нейкай справе, паведаміў "жудасную гісторыю, як іх рыхтавалі да самапаклёпніцтва, пераконвалі, што гэта патрэбна і карысна партыі, што партыя павінна належным чынам ацаніць іх учынак. Яны перасварыліся паміж сабой... Адмовіліся размаўляць са следчым па гэтым пытанні. Прыйшоў прадстаўнік ЦК і аб'явіў, што гэта воля партыі". Як бачым, савецкая турма не была месцам для самаўдасканалення. *-Л.Л.*)

Мала гэтага: у Вільні з'явіліся ўлёткі, якія абвінавачваюць усіх (за выняткам Тарашкевіча), хто выехаў у Менск, у тых жа злачынствах, што і Дварчаніна.

Калі гэтая інфармацыя з'яўляецца праўдай, яна будзе несумненна сведчыць не пра індывідуальную няласку да др. Дварчаніна, а пра максімальнае абвастрэнне антыбеларускага курсу ў Савецкай Беларусі. Ці выходзіць гэты курс з новага кірунку савецкай замежнай палітыкі? (Маецца на ўвазе савецка-польская дамова аб ненападзенні ад 1932 г. - *Л. Л.*)

S-wicz. (Антон Луцкевіч).

Murzyn zrobil swoje … // Preglad Wilenski. 1934. № 1. S. 7.

### Савецкае цэментаванне "адзінай і непадзельнай" Расіі

Самыя горшыя весткі беларусы атрымліваюць з Менска. Асобы, якія некалькі тыдняў таму пакінулі сталіцу Савецкай Беларусі, апісваюць палітычнае і эканамічнае жыццё за ўсходнім кардонам у самых чорных фарбах. Сапраўды, Менск добра разбудаваўся, з'явіліся ўзорныя гмахі, вуліцы з цвёрдым пакрыццём, хоць і дрэнна, але ўжо некалькі гадоў курсуюць электрычныя трамваі. Знешне горад моцна памяняўся да лепшага. Відавочна, савецкі ўрад апякуецца выглядам горада, які ляжыць на рухлівым шляху паміж сталіцай СССР і Захадам. Не можна таксама змаўчаць пра шматлікія культурныя здабыткі і найперш пра пашырэнне школьніцтва. Але ўсё гэта не можа радаваць назіральніка-беларуса, які жыве на гэтым баку мяжы (маюцца на ўвазе беларусы Заходняй Беларусі). Не радуецца таксама і прыціснутае беларускае грамадства ў межах СССР. Раней шмат дэкларавалася пра здабыткі, але яны бляднеюць на фоне сапраўднага пагрому лепшай і заслужанай беларускай інтэлігенцыі.

Згодна з расказамі асоб, якія вярнуліся з Менска, вязні, раней прыгавораныя польскім судом: Дварчанін, Рак-Міхайлоўскі, Гаўрылік, Валошын, Мятла і Бурсевіч, атрымалі ў СССР вырак на 10 гадоў і былі сасланы на Салавецкія астравы. Іх сем'ям забаронена жыць у Менску. Сына былога пасла Рак-Міхайлоўскага, пасла арышту бацькі, выгналі з Менскага ўніверсітэта. Іншыя беларусы, якія раней не маглі пагадзіцца са станам рэчаў, які існаваў у нас, і выехалі ў БССР, былі павысыланы ў самыя далёкія закуткі Савецкага Саюза. Былых паслоў Кахановіча і Барана, падобна, расстралялі. Псіхічна хворы Валынец памёр у вязніцы. Насуперак існаваўшаму звычаю, абменены на Аляхновіча Браніслаў Тарашкевіч не толькі не быў уганараваны ў Менску але пасля прыезду ў сталіцу БССР яму нават забаранілі выйсці з цягніка. Пра яго прыезд "знаць не велено". Згодна з адной з версій, зараз ён знаходзіцца ў цэнтральнай Расіі на пасадзе … старшыні калгаса. Згодна з іншай версіяй, яго ангажыравалі для напісання прапагандысцкіх прац.

(У СССР Б. Тарашкевіч быў вымушаны працаваць загадчыкам аддзела Польшчы і Прыбалтыкі ў Міжнародным аграрным інстытуце (Масква), хаця з'яўляўся правадзейным членам АН Беларусі. 6 траўня 1937 года арыштаваны. 5 студзеня 1938 «двойкай» НКУС і Пракуратуры СССР прыгавораны да расстрэлу. Як сцвярджае афіцыйная версія, ён быў расстраляны 29 кастрычніка 1938 у Менску. Даследчык Л. Маракоў мяркуе, што Б. Тарашкевіч загінуў у часе катавання, якія доўжыліся дзевяць месяцаў. *- Рэд.*).

Праследаванне падазраваных у нацыяналізме ці дэмакратызме беларусаў ужо стала ў БССР сталым звычаем. Так, напрыклад, вядомы беларускі педагог, аўтар шэрагу навуковых прац і член Беларускай акадэміі навук Нарушэвіч, які здаўна знаходзіцца ў вязніцы, па прыкладзе прафесара Ігнатоўскага і іншых спрабаваў здзейсніць самазабойства.

Нічога не чулі ўцекачы з Менску пра лёс былога пасла Карузы. Руская эміграцыйная прэса, абапіраючыся на брашуру, прысвечаную барацьбе з уплывамі Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, пісала пра яго "ліквідацыю" органамі ГПУ. Я меў магчымасць пазнаёміцца з гэтай брашурай, яе змест выразна пярэчыць навіне, якую падае руская прэса. З брашуры вынікае толькі, што Каруза патрапіў у ГПУ і быў абвінавачаны ў спробе з антыбальшавіцкімі мэтамі пранікнуць у камуністычную партыю.

З-за гэтых неверагодных вестак з Менска прыходзяць розныя думкі аб прычынах савецкага пераследу.

"Беларускі спіс", пра які часам піша савецкая прэса, відавочна ёсць недарэчнай выдумкай. Гэта састарэла. Невядома, ці нацыяналізм з дэмакратызмам сам па сабе з'яўляецца прычынай пераследу. Складаецца ўражанне, што гэтым паняццем ГПУ зараз надае не такі сэнс, як раней. Асоба, якую там называюць "нацдэмам", не талеруецца не таму, што хоча захаваць і развіваць сваю мову і культуру ці браць удзел у грамадскім жыцці на падставе дэмакратыі. Бо і Ленін, які пісаў пра гонар рускага народа, у нейкім сэнсе быў рускім нацыяналістам. Нацыяналізм і дэмакратызм там сёння разумеюць як далёка ідучы ўкраінскі і беларускі сепаратызм. Гэта плынь абапіраецца на лозунг, кінуты савецкай уладай аб праве народаў на самавызначэнне ажна да аддзялення і ўсё выразней кажа пра незалежнасць беларускай і украінскай дзяржаў, Тым самым, у разуменні савецкіх палітыкаў, гэта плынь ідзе не толькі супраць цэнтралізму і ўлады Крамля, але і супраць асноў самой савецкай улады. Вызваленне ад савецкай улады ці толькі з-пад маскоўскага цэнтралізму сталася б небяспечным прэцэдэнтам для народаў іншых савецкіх рэспублік і пачаткам распаду імперыі.

Паколькі для Саветаў міжнародная сітуацыя складваецца цалкам добра, яны не могуць пужаць сваіх грамадзян капіталістычнай інтэрвенцыяй і ўзбройвацца, а таксама трымаць грамадзян у стане перманентнай трывогі за сваё жыццё з-за нападу суседзяў. У гэтакай атмасферы, каб пазбегнуць перавароту, можна трымаць грамадства толькі праз прамую дыктатуру, цэнтралізацыю і уніфікацыю. Беларускі сепаратызм цалкам дарос да ўкраінскага і, відавочна, бачыца Крамлю самай вялікай пагрозай пад назвай "нацдэмаўшчына". Вось гэнеза пераследу беларусаў у Саветах, пераследу, які з'яўляецца адбіткам падзей на Украіне, адкуль беларусы, без сумневу, чэрпаюць натхненне і надзею на будучыню.

Трэба сказаць, што гэтакія ж нацыянальныя праблемы ёсць і ў іншых дзяржавах Еўропы. Асноўным падабенствам, відавочна, ёсць тое, што ідэя, выказаная на паперы аб поўнай магчымасці развіцця нацыянальных меншасцяў, на практыцы і з розных прычын усяляк абмяжоўваецца, а меншасці прыгаворваюцца да асіміляцыі. Да спроб вялікарускай асіміляцыі украінцаў і беларусаў саветы прыйшлі, магчыма, найпазней, але сваімі "ўдарніцкімі" тэмпамі хутка адрабляюць страчаны час. Без сумнення, ім гэта не ўдасца. Запозна. Але такая палітыка павінна выклікаць адпор дыктатарству і ўзмацніць ідэю незалежнасці.

Паварот у Саветах да старога спосабу цэментавання народаў не застанецца без рэха па гэты бок мяжы. Тое, што з вялікімі цяжкасцямі бальшавікі здолелі прышпіліць у Заходняй Беларусі, зараз адразу закончылася. Саветафільская арыентацыя беларусаў зламалася па ўсёй лініі.

S-wisz. (псеўданім Антона Луцкевіча).

Sowieckie cementowanie "jedynej i niepodzielnej" Rosji // Preglad Wilenski. 1938, № 12. S. 6-7.

***Пераклад Леаніда Лаўрэша.***





# "Ой, Нёман, і песня, і слава народа майго і зямлі!"

Неманец, Нёман, Нямунас, Мемель. Гэта розныя назвы адной і той жа ракі. Ракі, добра вядомай у Еўропе, але найперш беларусам, літоўцам і палякам. У сярэднявечнай магутнай дзяржаве ВКЛ Нёман быў вялікай воднай магістраллю. Вытокі яго на захадзе ад Менска. Зліваючыся ў адно русла, Уса, Лоша і Неманец ператвараюцца ў Нёман. Звыш 900 кіламетраў, агінаючы Навагрудскае ўзвышша, прабіваючы шлях праз марэнную Гарадзенскую граду, збіраючы воды з заходне-паўночнай тэрыторыі Беларусі і часткі Палесся, коціць Нёман свае воды ў Балтыйскае мора.

Сёння ў кожнага рэчка Нёман выклікае свае асацыяцыі: вялікі старажытны гандлёвы шлях, дарога для заваёўнікаў, рака замкаў і цвердзяў, радзіма вялікіх людзей, пісьменнікаў і песняроў, рака баявой славы беларускіх партызан і французскіх лётчыкаў дывізіі "Нармандыя-Нёман", месца, дзе бярозаўскія майстры-гутнікі твораць "цуды" з крышталю. У апошнія гады дадаюць аўтарытэту гэтай рацэ і хакеісты гарадзенскага "Нёмана", выдатна выступаючы на еўрапейскай арэне. Набірае папулярнасць у аматараў літаратуры і паэзіі часопіс "Нёман".

Нёман - рака-легенда. Многія знакамітыя людзі, якім хоць раз давялося пабыць на яе берагах, пакінулі запамінальныя ўспаміны ў сваіх творах. Нагадваем двух Міцкевічаў - Адама і Канстанціна (Якуба Коласа), Яна Чачота, Вінцэся Каратынскага, Уладзіслава Сыракомлю, Элізу Ажэшку, Янку Брыля, Уладзіміра Калесніка, кампазітараў А. Шыдлоўскага і М. Сакалоўскага і дзясяткі іншых.

У народзе да назвы гэтай ракі амаль заўсёды дадаюць слова "бацька". Бо ён, як сапраўдны бацька, беларус і па паходжанні, бо бярэ пачатак у самым цэнтры нашай краіны, і па сваіх справах, бо дае людзям працу і прыбытак: з водаў - рыбу, з прыбярэжных лясоў і пушчаў - першагатунковы карабельны лес, драўняны вугаль, жывіцу, мяса і футра дзічыны, грыбы, ягады. Прыбярэжныя заліўныя лугі былі і ёсць раздоллем для выпасу хатняй жывёлы, а ўрадлівыя глебы - для вырошчвання зерня і льну. Менавіта тут, паблізу Шчорсаў, графу Храптовічу ўдалося наладзіць яшчэ ў 18 стагоддзі перадавую сельскую гаспадарку, якая грымела на ўсю Еўропу. Гэты мецэнат зрабіў Шчорсы вядомымі ў свеце і сваёй бібліятэкай, на паліцах якой было звыш 26 тысяч кніг, паўтары сотні з якіх былі асабліва старажытныя і рэдкія. У яго калекцыі захоўвалася таксама каля сямі тысяч гравюр.

Мне пашчасціла з'явіцца на свет у наднёманскай старажытнай Любчы, вядомай сваім сярэднявечным замкам і друкарняй, магдэбургскім правам з 1590 года, партызанскай славай, урадлівымі глебамі і працавітым людам. Тут прайшлі мае дзіцячыя гады. Тут штогод я бавіў летнія школьныя канікулы. Любча ў той час была для мяне ледзьве не цэнтрам Еўропы. Чыгунка, хоць і вузкакалейная, жоўта-чырвоны вялікі аўтобус, што раз на тыдзень мог давезці любога ў нейкія там Баранавічы, дзясяткі рачных "караблёў"- буксіраў, што снавалі туды-сюды па Нёмане, берагі якога былі завалены тысячамі кубаметраў сплаванага лесу. На маю думку, кожны такі "карабель", напэўна, дасягаў Балтыйскага мора. Як усё гэта абуджала маю дзіцячую фантазію, як мне хацелася трапіць на гэты борт, дабрацца да мора-акіяна!



А якога каларыту да ўсяго гэтага дадаваў штотыднёвы базар, для якога быў адведзены вялікі пляц за плотам дзедавай хаты! Задоўга да світання з'язджаліся сотні падводаў з блізкіх і далёкіх вёсак, людзі плылі на лодках, ішлі пешшу. Да паўдня пішчалі парасяты, рыкалі каровы, бляялі авечкі, падаваў голас на розны лад і іншы жывы тавар. А колькі выстаўлялася збаноў, гаршкоў, бочак, дзежак, кубельцаў, балеяў, прыладаў для хатняга абіходу, кавальскіх і іншых вырабаў майстроў-рамеснікаў!

А як здзіўляла разнастайнасць у харчовых павільёнах! Тут былі масла і смятана, сыры клінковыя і "галандскія", каўбасы і кумпякі вяленыя і вэнджаныя, хлеб хатняй выпечкі, яйкі, мёд, арэхі, чырвоныя пеўнікі з карамелізаванага цукру, яблыкі, ігрушы, вішні, чарэшні, лясныя ягады і шмат іншага. Страціўшы статус раённага цэнтра ў 1956 годзе, Любча паступова ператваралася ў невялікае паселішча з менш чым тысячай жыхароў (у 50-я гады там жыло 5 тысяч жыхароў).

Але багатая шматвяковая гісторыя гэтага краю не прапала. Яна захоўваецца сёння ў школьным краязнаўчым музеі, які мае статус народнага, дзякуючы ў першую чаргу апантанаму мясцоваму краязнаўцу М.М. Карповічу. Сёння экспазіцыя гэтага музея па колькасці і вартасці сваіх экспанатаў не саступае дзясяткам музеяў раённага маштабу. Другі, малодшы любчанец, І.А. Пячынскі, бязмерна ўлюбёны ў сваю малую радзіму, стварыў дабрачынны фонд "Любчанскі замак" і звыш дваццаці гадоў днём і ноччу з кельмай ці рыдлёўкай сам разам з валанцёрамі, з неабыякавымі любчанцамі і іншымі жыхарамі Навагрудчыны і Беларусі, збіраючы па капейцы, па рублю, па цаглінцы, надаў яму першапачатковы сярэднявечны выгляд. Пры гэтым вельмі часта замест дапамогі ад зацікаўленых дзяржаўных ці грамадскіх структур трапляў пад крытыку.

А зараз уявіце, якую памылку ў свой час нехта зрабіў, ліквідаваўшы вузкакалейную чыгунку. Айчынныя і замежныя турысты, студэнты, школьнікі, навукоўцы, ураджэнцы Навагрудчыны, пазнаёміўшыся з першай сталіцай ВКЛ, мелі б магчымасць у "цацачным" вагончыку, па рэйках пятляючы паміж далінаў і ўзгоркаў, любуючыся непаўторнымі краявідамі, прыехаць у Любчу на бераг Нёмана. Тут са сцен адноўленага замка паглядзець на Налібоцкую пушчу, папалудняваць, замовіць вячэру, пераначаваць у атмасферы сярэднявечча, зрабіць на рыбным кацеры прагулку па рацэ ў бок Дзяляцічаў ці Купіска, наведаць музей, пагаварыць са старажыламі, некалькі дзясяткаў якіх яшчэ жыве. Яны добра памятаюць жыццё былога раённага цэнтра, атмасферу любчанскіх базараў і іншых пасляваенных падзей. Давайце ж хутчэй ад размоў аб развіцці турыстычнай індустрыі пераходзіць да дзеяння, да адраджэння гэтай справы на практыцы!

Канешне ж, Шчорсы і Любча - найважнейшыя пасяленні на верхнім Нёмане, але ёсць яшчэ Дзяляцічы, знакамітыя сваімі плытагонамі, Морына з калісьці магутным цагляным заводам, які адпраўляў баржамі чырвоную цэглу на будоўлю Гародні, Бярозаўка з найстарэйшым у Беларусі шклозаводам і музеем непаўторных вырабаў мясцовых майстроў-гутнікаў.

На правым беразе Нёмана, ніжэй Бярозаўкі, акурат насупраць сярэднявечных бродаў, па прамым шляху з Навагрудка на Гародню, раскінулася старасвецкае мястэчка Беліца. У 15 стагоддзі гэта было вялікакняскае ўладанне, а пазней магнатаў Глінічаў-Радзівілаў. Гетман Радзівіл Руды ў 1553 годзе заснаваў тут кальвінскі збор, у якім пазней праходзілі кальвінскія сіноды. У 19 стагоддзі тут дзейнічалі праваслаўная царква, касцёл і сінагога, штогод праводзіліся чатыры кірмашы, а да 60-х гадоў 20 стагоддзя ў мястэчка здалёк з'язджаліся людзі на знакамітыя "свіныя" базары. На паўночна-ўсходняй ускраіне Беліцы бескурганны могільнік, а ў яе ваколіцах - дзясяткі стаянак старажытнага чалавека. Сёння праз Беліцу ідуць аўтамабільныя трасы М11 і Р141.

Ніжэй за Беліцу ўздоўж Нёмана будуць вартымі ўвагі турыстаў-воднікаў Збляны з цікавай праваслаўнай царквой, багатымі традыцыямі народнага ткацтва. Далей - Панямонцы, вёска "прафесійных" рыбакоў (яшчэ з часоў панскай Польшчы тут дзейнічала рыбалоўная арцель), а за ёй - аграгарадок Пескаўцы з сярэдняй школай, паштовым аддзяленнем, магазінам. Насупраць Панямонцаў, на левым беразе - вёска Дзятлаўскага раёна з цікавай назвай Латышы, каля вёскі некалькі стаянак і гарадзішча першабытнага чалавека. У самой вёсцы засталося жыць не больш за 3-4 чалавекі. За Латышамі клінам у тэрыторыю Дзятлаўскага раёна на левым беразе Нёмана ўразаліся землі Лідскага раёна з вёскай Карытніца, якая раскінулася нібы ў вялікім "карыце" паміж дзвюма доўгімі пясчанымі гарбамі-дзюнамі. Нядаўна Карытніцу перадалі-такі ў Дзятлаўскі раён, мабыць, каб не адбудоўваць мост, у чарговы раз знесены бацькам Нёманам.

За Карытніцай на левым беразе Нёмана яшчэ тры вёскі Дзятлаўскага раёна. Праўда, сама рака за многія стагоддзі на кіламетр-два адышла ад Дзямянаўцаў, Шаршнёў і Гузнёў, пакінуўшы жыхарам гэтых вёсак старыцы, а паміж імі і берагам сучаснага русла - маляўнічыя дубравы з векавымі дубамі-волатамі, з прыгожымі палянамі і пясчанымі пляжамі. Менавіта тут мы, дзятлаўскія турысты-воднікі, звычайна і заканчваем свае маршруты, пачынаючы іх ці на Моўчадзі, ці на Нёмане з Любчы, Шчорсаў або з-пад Стоўбцаў.

Шаноўныя аматары падарожжаў, калі ў вас ёсць некалькі вольных летніх дзён і вам хочацца правесці іх запамінальна, калі ёсць жаданне пажыць у атмасферы плытагонаў ці купцоў, якія плылі крамянёвым і бурштынавым шляхам з "варагаў у грэкі", ці рыбакоў, якія здабывалі невадам сродкі на жыццё, папоўніць свае веды па гісторыі прынёманскага краю ці проста адпачыць ад гарадскога шуму, смела пакуйце заплечнікі, рыхтуйце намёты, спальныя мяхі. Нёман чакае вас! Рака гэта хоць і глыбокая месцамі, хоць і забрала жыццё ў тысяч заваёўнікаў, а бывала, і ў сваіх неасцярожных людзей, на самой справе мірная, прыгожая, дазваляе тым, хто ўпершыню апынецца на яе водах і будзе выконваць элементарныя правілы паводзін, цудоўна адпачыць, яшчэ больш палюбіць і ацаніць свой край, сваю малую радзіму, сваю Беларусь.

У 1975 годзе мне давялося за адно лета ў два прыёмы прайсці гэтую раку амаль ад вытокаў з Мікалаеўшчыны да яе вусця і праз Куршскую затоку да Клайпеды. Праўда, шлях ад Каўнаса да мора быў на камфартабельным рачным цеплаходзе, на падводных крылах. Уражанні і бязмерная любоў да гэтай ракі засталіся на ўсё жыццё. Пасля таго мяне захапіў неадольны спартыўны азарт, што пацягнуў пакараць адну за адной бурлівыя горныя рэкі ў розных кутках былога СССР. Але Нёман застаўся для мяне, па словах Адама Міцкевіча, радзімай ракой.

Цяпер, калі мне ўжо даўно за 70 і здароўе не вельмі дазваляе шмат дзён жыць у паходных умовах, з надыходам цяпла ўсё часцей усплываюць у памяці то асобныя эпізоды і моманты, то нават і цэлыя дні, праведзеныя на экватары бацькі-Нёмана.

Нёман вас чакае! Ён вам гатовы аддзячыць сваёй прыгажосцю, некранутай цішынёй, летнім сонцам і цёплым даждзом, грыбамі і ягадамі з прыбярэжных лясоў. А некаторым падорыць і пару акунёў ці плотак на юшку.

Дзятлаўскі раённы спартыўны клуб прапануе дапамогу ў арганізацыі водных турпаходаў.

Тэлефон для даведак: 8-015-63-62-1-95, +375445227175 (пытаць Васіленка Вольгу).

*Валерый Петрыкевіч,*
*старшыня Дзятлаўскай раённай арганізацыі ТБМ, краязнавец, турыст-воднік.*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Станіслаў Суднік, Людвіка Таўгень, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.

**http://nslowa.by/ http://naszaslowa.by/**
**http://pawet.net/ http://kamunikat.org/**
**http://tbm-mova.by/ http://belkiosk.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацый. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 15.06.2020 г. у 17.00. Замова № 1128.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1500 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 2,65 руб., 3 мес.- 7,95 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.